**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**




*Байка*

Авечку нейк у лес
Пазвалі на кангрэс.
Кангрэс той быў няпросты —
міжнародны.
Вучоныя мужы —
Ваўкі, Мядзведзі, Лісы ды Вужы —
Павінны гаварыць былі пра час, ва ўсім
выгодны
Для існавання тых,
Чыя адвеку доля
Закускай на стале быць,
І не болей.
А для чаго Авечка прыдалася?
Каб, ціхая, пакорная, яна
На форуме высокім паклялася,
Што ўсцешаная доляю спаўна,
Што ёй ад нараджэння гэтак любы
І кіпцюры драпежнікаў, і зубы.
Воўк, мадэратар, калі ўсё звяр'ё
Сказала пра балеснае сваё,
З усмешкаю Авечку прыгадаў
І ёй, душэўна-чулай, слова даў.
Ды тая з апантанасцю, запалам
Распавядаць крытычна пачала
Пра тое, колькі ёй прынеслі зла
Клыкі Ваўкоў.
Кампанія такога не чакала.
І хоць Авечка з'едзенай была,
Ды моцна зграі нервы патрапала.





Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




## Паплаціўся за моц

*Міні-фельетон*

У прыродзе здаўна дзейнічае такі закон: мацнейшы перамагае ці нават знішчае слабейшага. Тычыцца ён усіх жывых істот, якія насяляюць Зямлю. Але ж трэба ўзгадаць, што матухна-прырода нічога не робіць проста так. І нездарма яна дала «хомасапіенсу» ўменне думаць, паставіла на чале царства жывёл. Ахова навакольнага асяроддзя – тая нялёгкая задача, якая з самага пачатку была ўскладзена на чалавека, толькі яму пад сілу ўтрымліваць гармонію ў свеце.

Шкада, але далёка не ўсе ўспрымаюць гэты абавязак усур'ёз. Ёсць сярод нас і тыя, хто пры кожным зручным выпадку імкнецца прадэманстраваць сваю моц слабейшым.

Напрыклад, адзін 55-гадовы мінчанін з вуліцы Магілёўскай. Трэба адзначыць, што ён вельмі любіў выпіць, нават тры разы знаходзіўся ў лячэбна-працоўным прафілакторыі. Да таго ж быў асуджаны за пагрозу забойства. Калі п'яны мужчына апынуўся ў кватэры, у ёй нікога не было, акрамя шчанюка нямецкай аўчаркі. Невядома, чым разнервавала яго малая жывёліна, але мужчыну раптоўна абуяла лютасць. Ён вырашыў паказаць, хто ў доме гаспадар. Жывадзёр абезгаловіў сабаку і выкінуў на лесвічную пляцоўку...

Вось толькі такая праява моцы не сыдзе яму з рук. Праваахоўныя органы не даруюць жорсткага абыходжання з жывёламі. Гэтае злачынства прадугледжвае штраф, выпраўленчыя работы альбо арышт на тэрмін да аднаго года. На нашу думку, гэта вельмі лёгкае пакаранне. Але правільны ўрок для такіх жывадзёраў.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

Яўген ХВАЛЕЙ







Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Сварка



Заспрачалася шыпшына
З ружаю без дай прычыны:
У каго пялёсткаў больш?
Быў такі вердыкт мядзведзя:
– Вы з калючкамі абедзве,
Значыць, цана сварцы – грош!

## Як паглядзець



Столь смяялася з падлогі:
– Топчуць, бедненькую, ногі!
Тая ж выдала ў адказ:
– Твой паверх – вышэй. Якраз
Па спіне таўчэ абцас.

## Абое рабое



Не сяброўка гусь свінні,
Ды бывае часам:
У гразі ляжаць яны
Каля плоту разам.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Аднадумцы



І Шчупак,
І Лебедзь, Рак
Выступаюць заадно,
Калі ў возе ёсць віно.

## Несумяшчальныя





Не ўжывуцца кот з сабакам,
Як ціхмяны з «балалакам».

*г. Мінск.*



Малюнак Алега ГУЦОЛА.








Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Гадзіннік — логава гадзюкі.
Галета — натуршчыца.
Ганчар — паляўнічы з сабакамі.
Галёнка — цырульніца.
Гідра — жанчына-гід.
Гладыятар — ганчар.
Графа — жонка графа.
Графік — сын графа.
Гусар — разводчык гусей.
Даведнік — следчы.
Дазор — палёт у космас.
Дакляраваць — гатаваць у кляры.
Дактрына — урачыха.
Дзьмухавец — трубач.
Дзядзінец — дом састарэлых.
Дзяк — удзячны чалавек.
Жрэц — абжора.
Забой — кат.
Завадатар — ключ запальвання.
Зазубрына — самка зубра.
Залежнасць — доўгае ляжанне.
Заморак — іншаземец з-за мора.
Засада — пасеў на агародзе.
Засумаваць — скласці нешта ў сумку.
Змарнець — многа марыць.
Зморанасць — вяртанне з мора.
Казуля — казачніца.
Канюшына — стайня.
Картуз — галоўны карцёжнік.
Качан — культурыст.
Кулацтва — бойка.
Кульнуць — стрэліць.

**Соф'я КУСЯНКОВА,**
*Рагачоўскі раён,*
*в. Лучын.*




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

## Пагуляў



Уцякаў ад жонкі
Да сваёй каханкі,
Толькі не чакаў ён
Гэтакай «падлянкі».



Хтось паклапаціўся
Вельмі ўжо заўзята
І зрабіў машыну
Да язды няздатнай.

Руль не варухнецца,
Нібыта ўкапаны,
Шкло зашмальцавана,
Тормаз адарваны.



Зроблена наўмысна
(Аб чым тут гамонка?)
Хто ж такі нягоднік?
Ну, вядома, жонка.

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*





## «Ліст шчасця»

*Гісторыйка*

Генадзь, вопытны электроншчык, ехаў раз на сваёй машыне праз тунэль, у якім былі ўсталяваныя камеры фотафіксацыі парушэнняў хуткаснага рэжыму. Мужчына пільна сачыў за спідометрам і «трымаў стрэлку» нават ніжэй дазволенага значэння. Але мінаючы кропку фіксацыі, ён заўважыў зыркае святло фотаўспышкі. «Як жа так! – услых здзіўлена прамовіў Генадзь. – Як яны абсталяванне наладжваюць? Ну, я ім зараз пакажу!»

Мінуўшы тунэль, мужчына вырашыў вярнуцца на зыходную пазіцыю. Паўторна ён праехаў каля камеры з хуткасцю, якая была на дзесяць кіламетраў у гадзіну ніжэйшай за максімальна дазволеную. І зноў убачыў фотаўспышку!

Нервова зарагатаўшы, Генадзь паўтарыў манеўр, праехаўшы міма камеры з хуткасцю дваццаць кіламетраў у гадзіну (дазволена было, дарэчы, утрая больш). Але ўсё паўтарылася. Ён вырашыў не марнаваць свой час, супакоіўся і накіраваўся дадому. Усю дарогу ўяўляў, як абсмяе тых «даішнікаў», што будуць штрафаваць яго па выніках няякаснай фотафіксацыі.

...Генадзь быў вельмі збянтэжаны, калі праз некалькі тыдняў да яго прыйшоў «ліст шчасця». У ім парушальніку прапаноўвалася аплаціць ажно тры штрафы за тое, што ён не карыстаўся рэменем бяспекі...

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*





# Міколу ГІРГЕЛЮ — 70!

Для таго, каб выдатна гумарыць, нашаму мастаку Міколу Гіргелю ўзрост — не перашкода. Ужо колькі год з-пад алоўка майстра выходзіць шмат трапных гумарыстычных і сатырычных малюнкаў. Не дзіва, бо зараз, як і раней, хапае над чым пасмяяцца.

Жадаем юбіляру доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя і вясёлых карыкатур!










Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

## Успомніў

*Быль*

Пасля трох гадоў службы ў арміі Іван Бярозкін вярнуўся ў родную вёску. За гэты час хлопец узмужнеў, падрос. Ды і служыў, відаць, добра: ягоны кіцель упрыгожвала шмат значкоў.

Выйшаў аднойчы Бярозкін на вуліцу пры ўсіх сваіх узнагародах. Яго ўбачыў сусед Павел, падышоў, павітаўся, пра службу пачаў распытваць.

– А я вас не ведаю, дзядзька, – раптам зазначыў Бярозкін.

– Няўжо не памятаеш мяне? – здзівіўся Павел. – А як у сад мой залез, а я крапівой цябе адхвастаў?

– Таксама не...

Насупіў бровы сусед, плюнуў ды пацягнуўся далей па сваіх справах.

Здалёк заўважыў Бярозкіна яшчэ адзін яго знаёмы, аднакласнік Гена Калатушкін.

– Ой, які ты стаў, Ваня! А колькі ўзнагарод у цябе! – пачаў дзівіцца хлопец. – У школе ж ніводнай не было.

А Бярозкін пазірае на яго панура ды кажа:

– Не памятаю такога! Я з табой за адной партай не сядзеў. Ты гэта прыдумаў.

– Ну, хіба не пазнаў мяне? Гэта ж я, Гена Калатушкін, перад хуліганамі за цябе заступаўся...

Але Бярозкін прыяцеля не прызнаў: Калатушкін задумаўся, пачухаў патыліцу ды хуценька падаўся ад былога сябра.

Трэцім чалавекам, з якім сутыкнуўся Бярозкін, стаў яго родны дзядзька Сцяпан.

– Пляміаш, як ты ўзмужнеў! – радасна сустрэў Івана сваяк. – Вось дык дапамога да бацькі вярнулася! Вырас да неба!

Стаіць Бярозкін, пазірае на дзядзьку Сцяпана, углядаецца яму ў вочы і кажа:

– Я вас не памятаю.

– Ды ты што, пляміаш, здурнеў?!

А Бярозкін усё сваё гне: не памятаю ды не памятаю.

Выйшла маці з сенцаў і кліча хлопца:

– Ванька, хадзем снедаць!

Паварочваецца Бярозкін і бачыць: за суседавым плотам свіння бяжыць. Ён аж падскочыў ды закрычаў:

– Успомніў! Мамка, глядзі, гэта ж Амяльянава свіння! Я тры гады служыў, а яна яшчэ жыве! Памятаю, як яна з парсючкамі ў лужыне плёскалася!

Вось што значыць добрая памяць...

**Аляксей РУСІНОВІЧ,**
*в. Пятровічы.*



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Алега ПАПОВА.

# Веласіпедысты супраць пешаходаў



*Фельетон*

Канферэнц-зала пачала запаўняцца людзьмі. Збіралася тут і моладзь, і старэйшае пакаленне, заўважаліся падлеткі і дзеці. Неўзабаве з'явіліся яшчэ чатыры чалавекі, якія селі за прыгатаваны стол-прэзідыум.

З першага раду падняўся невысокі мужчына ў пінжаку, паглядзеў на гадзіннік, кінуў позірк у залу. Пасля гэтага падышоў да тумбы для выступу, пачакаў, пакуль усе прысутныя супакояцца. Калі ў памяшканні ўсталявалася цішыня, гучным пастаўленым голасам прамовіў:

– Добры дзень! Рады вітаць усіх прысутных на З'ездзе ўдзельнікаў дарожнага руху – ЗУДР. Калі хто не ведае, мяне завуць Антон Міхайлавіч Дарожкін. Я выконваю абавязкі старшыні гэтага з'езда, курырую ўсе праекты і прапановы, якія тычацца паляпшэння ўмоў для ўдзельнікаў дарожнага руху нашай краіны. Хай гэта будзе звычайны пешаход, аўтамабіліст ці проста маці з каляскай. Сёння, у першы дзень ЗУДР, мы паразмаўляем пра ўзаемаадносіны на дарогах пешаходаў і веласіпедыстаў. Кожны з прысутных можа выказаць прапанову, заўвагу ці прадставіць іх у пісьмовым выглядзе і пакласці ў спецыяльную скрынку, якую вы бычыце каля дзвярэй.

Прагучалі апладысменты, пасля якіх Антон Міхайлавіч працягнуў:

– Члены прэзідыума: Іван Дзмітрыевіч Знакаў – супрацоўнік службы ДАІ, прафесійны веласіпедыст з саракагадовым стажам Сяргей Пятровіч Руль, пешаход Адам Дзянісавіч Крок і незалежны эксперт Барыс Станіслававіч Уважлівы, які з'яўляецца і пешаходам, і веласіпедыстам, і нават аўтамабілістам.

Усе пералічаныя падняліся і павіталіся з прысутнымі. Зноўку прагрымелі апладысменты.

– Пачнём мы з агляду нядаўняга здарэння з удзелам пешахода і веласіпедыста. Падрабязней пра гэта раскажа Іван Дзмітрыевіч Знакаў, – старшыня саступіў месца за тумбай дакладчыку.

– Добры дзень! На сталічнай вуліцы Пятра Глебкі на тратуары, які раздзелены на дзве часткі – адна для пешаходаў, а другая для веласіпедыстаў, – адбылася бойка. Малады чалавек рухаўся па краі веласіпеднай дарожкі. Насустрач яму ехаў мужчына на ровары. У выніку паміж імі адбылося сутыкненне, абодва ўпалі. Падняўшыся, веласіпедыст дастаў з заплечніка бейсбольную біту і ўдарыў хлопца па галаве, пасля чаго знік. Але ў хуткім часе супрацоўнікі міліцыі знайшлі агрэсара і затрымалі. Узбуджана крымінальная справа па артыкуле «Хуліганства». Мужчыне пагражае ад трох да дзесяці гадоў зняволення. Дарэчы, спрэчкі веласіпедыстаў і пешаходаў здараюцца дастаткова часта, але да рукапрыкладства справа не даходзіць. З пачатку гэтага года толькі два падобныя ДТЗ былі накіраваны ў суд.

Зала зашумела, удзельнікі ЗУДР пачалі абмяркоўваць паміж сабой пачутае. Да Івана Дзмітрыевіча падышоў Дарожкін і прамовіў:

– Як я бачу, навіна выклікала розныя эмоцыі сярод прысутных. Таму прапаноўваю на яе прыкладзе працягнуць гаворку. Хто хоча выказаць сваю думку?

– Дазвольце мне, – падняўся са свайго месца Сяргей Пятровіч Руль. – Я амаль не расстаюся са сваім двухколавым сябрам. Прайшлі мы з ім праз многае. Здараліся нават падобныя сітуацыі. Таксама падаў з веласіпеда з-за пешаходаў, якія знянацку кідаліся пад колы. Вельмі часта людзі не ўспрымаюць веласіпед як крыніцу небяспекі. Спецыяльныя дарожкі крыху палепшылі становішча, але кожны трэці не звяртае на знакі ніякай увагі – шыбуюць, хоць ты кол ім на галаве чашы. А вінаватымі заўсёды будзем мы – веласіпедысты... Я прапаноўваю штрафаваць пешаходаў, якія ідуць па нашай праезнай частцы!

– Вось не трэба, вы таксама далёка не ўсе святыя, – усхапіўся Адам Дзянісавіч Крок. – Носіцеся як угарэлыя. Хуткасць, як у машын. А калі калдобіна якая знянацку на дарозе? І самі пазабіваецеся, і тых, хто побач, траўміруеце. І дзіця малое можа выскачыць, яго ж на ланцуг падчас прагулкі не пасадзіш. Так, згодзен, пешаходы вельмі часта паводзяць сябе, быццам жыццё ў іх не адно, але ж гэтыя дарожкі толькі-толькі пачалі з'яўляцца. Не ўвайшло яшчэ ў звычку, што тратуар – не толькі

наша тэрыторыя. Таму прапаноўваю хуткасць веласіпедыстаў на такіх сумесных дарожках кантраляваць...

Зала зноўку загула. Меркаванні спадабаліся ўдзельнікам.

– Тады дазвольце і мне выказаць сваю думку, – ціхенька прамовіў Барыс Станіслававіч Уважлівы. – Ведаеце, што ў аўтамабілістаў ёсць правіла трох «Д» – «Дай Дарогу Дурню». І ёсць невялікае дапаўненне да яго – думай за іншага дурня. Колькі сябе памятаю, жыў менавіта па такім прынцыпе. У выніку і сам не калечыўся, і ад мяне ніхто не пакутаваў. На дарозе ўсе роўныя, да кожнага ўдзельніка дарожнага руху трэба адносіцца з павагай. І, безумоўна, ніколі не губляць пільнасць. Вы можаце ўсё рабіць правільна, але зусім не абавязкова, што так будуць дзейнічаць і іншыя. А ўвогуле я за тое, каб пешаходы і веласіпедысты здавалі своеасаблівыя экзамены на веданне правілаў дарожнага руху. На мой погляд, дзякуючы гэтаму мы будзем адносіцца адзін да аднаго з большай павагай і разуменнем.

Калі апошні дакладчык сеў, прысутныя ў зале таксама пачалі абмяркоўваць прапанаваныя ідэі, задаваць пытанні, спрачацца. У канцы да тумбы падышоў Дарожкін:

– Спадзяюся, што ўсе прысутныя пасля гэтага схода будуць больш уважліва ставіцца адзін да аднаго. Справа застаецца за малым – данесці ўсе выказаныя думкі да астатніх удзельнікаў дарожнага руху. Дарэчы, ужо заўтра мы зноў збяромся ў гэтай зале для абмеркавання пытання, якое ўжо будзе тычыцца руху на вялікіх дарогах: як зрабіць так, каб кожны мог адчуваць сябе ў максімальнай бяспецы. Пакуль жа развітваюся з вамі, і памятайце: нашыя штогадовыя з'езды ўдзельнікаў дарожнага руху адкрыты для вашых прапаноў.

На гэтым першы дзень ЗУДР скончыўся. Але рэдакцыя «Вожыка» будзе і далей асвятляць падобныя мерапрыемствы. За імі вы можаце сачыць на старонках наступных нумароў нашага часопіса.

**На ЗУДРы пабывала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




## Вострым словам сатырыка

Шарж Сяргея РАМАНАВА, 1971 г.



*Капыльская вёска Пясочнае падарыла нашай літаратуры і лірыка, і гумарыста ў адной асобе – Анатоля АСТРЭЙКУ, чыё 105-годдзе з дня нараджэння мы сёлета адзначаем. Падчас вучобы на літаратурным факультэце Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута будучы вядомы пісьменнік пачаў супрацоўнічаць з раённымі і сталічнымі газетамі. Першы зборнік вершаў «Слава жыццю» выдадзены ў 1940 годзе.*

*У час Вялікай Айчыннай вайны Анатоль Астрэйка быў адказным сакратаром газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», яго двойчы накіроўвалі на занятую фашыстамі тэрыторыю Беларусі. Знаходзіўся на Случчыне ў партызанскай брыгадзе імя Чкалава. Тады быў напісаны зборнік вершаў пра баявыя справы народных мсціўцаў «Слуцкі пояс», выдадзены ў 1943 г. у партызанскай друкарні. Паэт складаў вострыя прыпеўкі, байкі для слуцкай падпольнай газеты «Народны мсцівец». Анатоль Вялюгін назваў вершы калегі па пяры «лірычным толам», які «крышыць у немцаў рэйкі».*

*Пасля вайны на працягу пяці гадоў (1948 – 1953) пісьменнік працаваў адказным сакратаром часопіса «Вожык». У яго Бібліятэцы і выйшла кніга фельетонаў «Чортава вакансія» (1986).*

*Пакуль ва ўсіх куточках Беларусі спявалі яго вядомую песню пра Нёман, пяро паэта з Пясочнага нястомна «прапясочвала» розных прайдзісветаў ды прыстасаванцаў, што шкодзілі нашаму грамадству. Па-сапраўднаму вострае слова Анатоля Астрэйкі і сёння гучыць актуальна і дасціпна.*

**Анатоль АСТРЭЙКА**

## Укралі завод

*Фельетон*

Быў завод і – няма. Як карова языком злізала. Укралі завод. З дырэктарам і вахцёрам. З рабочымі і інжынерамі. З абсталяваннем і станкамі.

«А ці не паехаць на пошукі таго прадпрыемства? – падумаў. – Можа, дапамагу тым, хто яго прагледзеў?»

І, не марудзячы, адправіўся ў дарогу. Каля розных заводаў і фабрык, аб'яднанняў і камбінатаў пачаў блукаць, прыглядацца. Не, стаяць на месцы, гудуць, працуюць.

Каля аднаго, дзе вялікія шыны вырабляюць, мяне заўважылі, запрасілі на тэрыторыю. Зайшоў: убачыў вялікую гару сабраных пакрышак. Ля іх тоўпілася процьма людзей. Яны энергічна размахвалі рукамі, даказвалі штосьці адзін аднаму, паказвалі на дах, які свяціўся, як тое рэшата.

– Хіба можна якасна праводзіць вулканізацыю ў такіх умовах? – даказваў адзін. – Дождж жа трапляе на пакрышкі. Брак будзе.

– А што зробіш? – разводзіў рукамі зборшчык.

– Дык чаму ж не адрамантуеце дах? – наступаў вулканізатаршчык.

– Не да таго нам, калі штурмаўшчына пачынаецца, – не здаваўся зборшчык. – Два тыдні прахалоджваліся, а цяпер завалілі па самыя вушы работай.

– Нават станкі не вытрымліваюць такой нагрузкі, – падтрымаў яго таварыш. – Рамонту просяць. Адны прастоі нараджаюць другія.

– Дысцыпліны няма, парадку, – не здаваўся вулканізатаршчык.

Не стаў слухаць спрэчку рабочых. Маўляў, дом не дом у таго гаспадара, у якога дах над галавой працякае.

Апынуўся ў другім горадзе. Каля аўтарамонтнага завода сустрэўся з рабочым, расказаў яму, што шукаю прадпрыемства, якое, што той міраж, уцякае ад мяне. А ён гаворыць:

– Ну, калі не цэлы завод, дык усё ж нешта ўнушальнае і ў нас украдзена.

– Як так? – пытаюся.



– А так, – адказвае, хітра пасміхаючыся. – Зайдзі, паглядзі, зразумееш.

Калі ж я наважыўся выпісваць пропуск, мой новы знаёмы аж зайшоўся ад рогату.

– Пропуск? Ды ты ідзі з сур'ёзным выглядам праз прахадную, ніхто цябе і пальцам не кране, – пачуў я. – А то лезь у любую дзірку ў плоце. Ні табе кантролю, ні табе прапускоў. У нас гэта проста робіцца, бо каму, скажы, хо-

чацца фіксаваць тыя спазненні, прагулы, уцёкі з работы? Каб потым самому намылілі шыю за дрэнную выхаваўчую работу?

Прайшоў я на тэрыторыю завода, што называецца, «зайцам». Агледзеўся. Вакол валяліся вузлы і дэталі, іржавеў метал, грувасціліся розныя скрынкі. У цэхах падлога ільснілася ад мазуты і саляркі, стаялі брудныя лужыны. Рабочыя, беручы на «пуп», цягнулі агромністыя дэталі. Дзесьці ўбаку сіратліва ржавелі краны.

– Куды я трапіў?! – здзівіўся я. – Ці ж гэта сучасная вытворчасць?

– А я табе пра што казаў? – падтаквае рабочы: – Ды тут дадатковы цэх можна пусціць, калі ліквідаваць усю гэтую неразбярыху, дапамагчы, як след, працаваць людзям...

Праз суткі я апынуўся ў адным горадзе.

– Нам бы твае клопаты, – сказалі ў рамонтна-будаўнічым упраўленні, калі я запытаў, ці не чулі яны што наконт украдзенага завода. – Не да завода нам. З парушальнікамі дысцыпліны змагаемся.

– І што вы робіце? Пэўна, нялёгка даводзіцца выхоўваць такіх лайдакоў? – паспачуваў я.

– Людзі дарослыя да нас прыходзяць, – пачуў ад кадравіка. – Хіба іх выхаваеш? Мы патрабуем адразу дзве заявы: адну аб прыёме на работу, другую – на звальненне па ўласным жаданні. Парушыў каторы дысцыпліну, а ў яго ўжо заява на звальненне гатовенькая. З лёгкім ветрыкам, як кажуць.

Не стаў я блытацца пад нагамі ў занятых людзей. У новы раён падаўся. І тут не знайшоў украдзены завод. Затое даведаўся, што за гады пяцігодкі з-за прагулаў і розных парушэнняў дысцыпліны недададзена прадукцыі амаль на мільён рублёў.

Пабываў у розных месцах. Аднак дарэмна пачынаў гутарку пра ўкрадзены завод. Не чулі і тут пра такі выпадак. Але скардзіліся на тое, што хапаюць за горла прастоі, нерацыянальнае выкарыстанне абсталявання. Маўляў, металарэжучыя станкі, кавальна-прэсавыя машыны, іншыя механізмы палову дня прастойваюць. Марудна асвойваюцца новыя магутнасці, рабочы час трацішча марна. Дык аб якой прадукцыйнасці працы тут тут можа быць гаворка?

Расказаў я пра гэта таварышу з аднаго даволі добрага прадпрыемства, а ён і кажа:

– Вось такія «рабацягі», якіх ты сустракаў, і ўкралі завод. Гэта ж, калі скласці ўсе дарэмныя траты часу, то недадаём прадукцыі надта многа. Калі на прадпрыемствах ліквідаваць прагулы, наладзіць як мае быць дысцыпліну, то гэта, бадай, будзе раўназначна пуску яшчэ аднаго завода...

Вось як...

*«Чортава вакансія», 1986 г.*






**Шаноўны сябра Вожык!**

Не ведаю, як для астатніх, але ж для мяне пераход Беларусі на новую валюту – з’ява сімвалічная. З новымі грашыма і жыццё павінна змяніцца. Але ж у які бок? Гэтае пытанне я для сябе вырашыў (гл. фота). І астатнім беларусам прапаноўваю далучыцца. Усё будзе добра!

**Кірыл СКРАБНЕЎСКІ,**
*г. Магілёў.*

**Прывітанне, калючы братка!**

А ці быў ты калі-небудзь у нас у Гомелі, у палацы Румянцавых і Паскевічаў? З нядаўніх часоў тут здараюцца самыя сапраўдныя цуды! Антычныя скульптуры, якія ўпрыгожваюць пакоі палаца, пачалі ажываць і выбірацца на прагулкі ў горад. Яны шпацыруюць па парках, гуляюць па беразе Сожа, заходзяць у крамы ды кафэ. Як я даведаўся, усё гэта робіцца імі дзеля прыцягнення ўвагі да мастацтва. Дасылаю табе эксклюзіўны фотаздымак: багіня прыгажосці Афрадыта збіраецца даваць інтэрв’ю мясцоваму тэлебачанню. Вось цікава даведацца: ці здараюцца такія цуды ў іншых гарадах?



**Рыгор АЛЬШЭЎСКІ,**
*г. Гомель.*

# Анекдоты

Траўматолагі вельмі любяць спорт. За выключэннем хіба толькі шахмат.

* * *

– Усё, 1 студзеня іду ў спартзалу!

– Яна ж не працуе ў гэты дзень...

– Вось дык бязладдзе! Летась таксама не працавала. Так я ніколі не пачну займацца спортам!

* * *

Зайздрошчу мужчыне, які кожную раніцу бегае вакол дома. Красоўкі ў яго клёвыя!

* * *

– Мама, я пайшоў гуляць у футбол з сябрамі.

– Толькі праз мой суп!

* * *

Спорт не для мяне. Учора падчас гульні ў шахматы вывіхнуў сабе запясце, рэзка зрабіўшы ход канём.

* * *

– Любы, вазьмі нашага сына на футбол!

– Куды, ён жа яшчэ зусім маленькі...

– Ну дык навошта яму крычаць проста так?

* * *

– Ты гэты футбол любіш больш, чым мяне...

– Затое я люблю цябе больш, чым бабслей, мастацкую гімнастыку, сінхроннае плаванне і фігурнае катанне разам узятыя.









## Нам з «Перцам» весела жывецца

*Украінскі сатырычна-гумарыстычны часопіс «Перац» — добры прыяцель «Вожыка» і наш часты госць: матэрыялы з гэтага выдання, заснаванага ў далёкім 1922 годзе, неаднаразова ўздымалі настрой беларускім чытачам. Традыцыі, якія заклалі калісьці вядомы ўкраінскі пісьменнік Астап Вішня і тагачасны галоўны рэдактар Васіль Чачвянскі, плённа працягвалі і развівалі наступныя пакаленні мастакоў і літаратараў. Незалежна ад ідэалагічных установак, яны кіраваліся наступным прынцыпам: каб гумар быў чыстым, а не брудным, разумным і шляхетным, а не банальным і прымітыўным.*

*У пасляваенныя часы часопіс меў вялікую папулярнасць, а яго тыражы даходзілі да некалькіх мільёнаў экзэмпляраў. За сапраўды доўгі і няпросты перыяд свайго існавання «Перац» прайшоў шлях ад агітацыйнага выдання да часопіса ўсесаюзнага значэння. На жаль, у 2013 годзе ён спыніў сваё існаванне, аднак не спынілася моцнае вясёлае сяброўства. З вялікім задавальненнем прапануем вам матэрыялы з архіваў часопіса. Давайце разам усміхнемся з жартаў ды карыкатур украінскіх калег!*

**Ігар ЛАГАЗА**

### Дух супярэчнасці

Нікадзім Васільевіч пасадзіў яблыньку. Малюсенькі ствол быў амаль з лазінку.

— Прыгожанькі, — атросшы рукі ад зямлі, сказаў ён.

— Што? — усміхнулася жонка. — Ён не вырасце.

— Чаму? — здзівіўся муж.

— Таму, што ты няўдачлівы і рукі ў цябе не з таго месца растуць.

— Як гэта — не з таго?

— Вельмі проста — не з таго, і ўсё тут!

Мінула два гады. Яблынька падрасла.

— Прыгожая, — усміхнуўся муж.

— Яе зайцы абгрызуць! — рашуча прамовіла жонка.

— Як гэта абгрызуць?

— Вельмі проста — зубкамі.

Праляцела яшчэ тры гады. Яблынька паднялася ўгору. Распусціліся першыя кветачкі.

— Што ж уродзіць? — гадаў Нікадзім Васільевіч.

— Нічога! — коратка кінула жонка.

— Але ж хоць крыху вырасце.

— Зусім не абавязкова.

— Чаму? Яна ж, глядзі, як цвіце!

— Ну дык што з таго? Завяжуцца і ападуць.

— Шкада будзе.

— Шкада не шкада, а ўпадуць абавязкова. Усе на зямлі будуць, — цвёрда заявіла жонка.

Настала восень. Вялікія плады з чырвонымі бакамі ледзь не ламалі тоненькія галінкі яблыні.

— Глядзі, якія прыгожыя! — усхвалявана прамовіў муж.

— Значыць, у сярэдзіне гнілыя!

— Нічога падобнага, не гнілыя, — прамовіў муж, разразаючы вострым нажом яблык.

— Дзіўна, — паціснула плячамі жонка, — што на гэты раз твая праўда, — і з хрустам адкусіла сакавітую мякаць.

**З украінскай мовы пераклаў Міхась СЛІВА.**



Малюнак Валерыя ЧМЫРОВА, 2005 г.




## Амаль з натуры



### Навігатар

Глухая вёска. Па разбітай дарозе паўзе джып. Мінае апошнюю, скасабочаную хату, парослую мохам, упіраецца ў паркан, за якім яр, ды замірае.

Дзве бабулькі сядзяць наводдаль на бервяне.

– Бач, Міхайлаўна, яшчэ адзін з навігатарам!

### Выгада

Калі вы прачыталі аб'яву: «Купляйце зараз! Выгада – 10 тысяч», то памятайце: гаворка ідзе не пра вашую выгаду.



**Алег ДУБІНКА,**
*г. Дунаеўцы*
*Хмяльніцкай вобласці.*

**Пераклад з украінскай Ганны КІСЛУШЧАНКІ.**




Малюнкі Аляксея КОХАНА, 2005 г.




Малюнак Анатоля ВАСІЛЕНКІ, 2005 г.

**Рыгор ЕЛІШЭВІЧ**

## Сямейны дэтэктыў

Жонка кажа: «Так хацела б
Ведаць я, Вадзім,
Чым займаешся ты дома
Без мяне, адзін?
Сябрукі твае — ні слова,
І сусед маўчыць...
Давядзецца мне за праўду
Кумцы заплаціць». —
«Без праблем! — ідзе ў атаку
Муж на гэта сам. —
Даставай з кішэні грошы —
Я і перадам!»

## Сумнеўная перспектыва

Аўдавеў адзін мужчына.
Як яно бывае,
Ён з суседзямі ўжо тыдзень
Гора залівае.
Тыя кажуць: «Пройдзе скруха,
Адплыве з вадзіцай.
Паглядзіш, яшчэ падчэпіш
Козку-маладзіцу».
Ды такая перспектыва
Не лагодзіць сэрца:
Кожны знае, як, між іншым,
Муж казы завецца.

**Пераклад з украінскай Веранікі МАНДЗІК.**

## Слоўнічак-жартоўнічак

Варэнік — электразваршчык.
Дробязь — задача на дробы.
Загубіць — схаваць за губу.
Краля — злодзейка.
Аратар — трактарыст.
Панталоны — талоны для пана.
Фармалін — педант.

**Валянцін БУЛАШЭНКА,**
*г. Чарнігаў.*

**Пераклад з украінскай Ганны КІСЛУШЧАНКІ.**



**— А чаму начальства ездзіць за чорным шклом?**
**— Каб ні вёскі, ні нас, ні праблем не бачыць!**

Малюнак Анатоля ВАСІЛЕНКІ, 2004 г.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# Як Вінцук «хваробы» пазбавіўся

*Быль*



Вінцук быў заўзятым футбольным балельшчыкам. Часам увесь дом чуў, як ён святкаваў гол. Да таго ж не абыходзілася без абавязковага атрыбуту – піва – і каментавання ходу матча.

Гэта не падабалася жонцы Аўдоцці, якой даводзілася самастойна займацца хатнімі справамі. Аднойчы яна не вытрымала і звярнулася да мужа з папрокам:

– Ты б хоць кран адрамантаваў! У мяне адной на ўсё рук не хапае.

Вінцук на імгненне адарваўся ад тэлевізара, здзіўлена зірнуў на жонку.

– А ты лічыш, што мне лёгка? Пасля футбола мне ні на што іншае моцы не хапае. Эмацыянальнае выгаранне асобы. Чула пра такое? Вось што робіць са мной гэткая «хвароба».

– І яе не можа вылечыць ніводны ўрач? – не паверыла жонка.

– Не. Толькі цуд, – ціха адказаў мужчына.

Аўдоцця папрасіла мужа не хвалявацца, а лепей легчы ды адпачыць, а сама пайшла працаваць далей. Мужчына ж задаволена ўсміхнуўся і адправіўся выконваць пажаданне жонкі.

На наступны дзень пасля працы Вінцук па звычцы пачаў шукаць на кухні вячэру. Але яе не было. Ён зайшоў у залу. Там перад тэлевізарам на канапе сядзела Аўдоцця, глядзела серыял і лузгала семкі. Вінцук ад такога відовішча ажно прысвіснуў:

– Чаму не сустракаем любімага мужа?

Аўдоцця пусціла слязу і шэптам прамовіла:

– Захварэла я, Вінцук. Цяжкая хвароба мяне апанавала, ніякі ўрач не можа з ёю справіцца.

– Што яшчэ за хвароба? – занепакоіўся мужчына.

– Тэлесерыялізацыяй завецца. Пакуль не пагляджу вечарам усе серыі любімых кінастужак, за ніякую хатнюю работу рукі не бяруцца. Так што ты сам як-небудзь на кухні спраўляйся. Ды і мяне, хворую, частуй.

Незадаволены Вінцук пайшоў гатаваць вячэру. Тое ж яму давялося рабіць і на наступны дзень, і ў іншыя. Напрыканцы тыдня Вінцук звярнуўся да жонкі:

– Даражэнькая, мне б вопратку папрасаваць...

– Не ведаю, ці здолею, сёння самы пік хваробы настаў, – стомлена адказала жонка.

Тут Вінцук не вытрымаў.

– Я не ведаю, што гэта за хвароба такая – «тэлесерыялізацыя», – але вылечыць яе змагу. Трэба выключыць тэлевізар і забыцца на яго існаванне!

– А ці не выявяцца нейкія пабочныя эфекты, калі мы тэлевізар вынесем на балкон? – здзівілася жонка.

– Не. Калі не глядзіш, то і не «хварэеш», – адказаў мужчына і пачаў адключаць тэлевізар.

– Колькі вольнага часу ў нас адразу з'явіцца... Тады, можа, кран адрамантуеш? – запыталася Аўдоцця.

– Канечне. Што, я не гаспадар у хаце? – рашуча прамовіў Вінцук і пайшоў па інструменты.

Аўдоцця яшчэ з хвіліну пасядзела на канапе, а затым, напяваючы вясёлы матыў, адправілася на кухню. У душы яна была шчаслівая і вельмі ганарылася сабой: ніводны ўрач не мог вылечыць мужа, а яна за тыдзень ад жудаснай хваробы яго пазбавіла. Ці ж гэта не сапраўдны цуд?

*Рэчыцкі р-н,*
*в. Каравацічы.*



Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

# Удыхаючы свежыя павевы ў звычайнае

*«Вожык» заўсёды любіць знаёміцца з новымі людзьмі. Асабліва, калі ў іх ёсць пачуццё гумару, аптымізм і вясёлыя погляды на навакольную рэчаіснасць. Кожны такі чалавек уздымае настрой і дае магчымасць паверыць, што якія б цяжкасці ні сустракаліся на жыццёвым шляху, калі глядзець на іх з усмешкай, усё скончыцца самым найлепшым чынам.*

*Такой асобай і з'яўляецца мастак Валянцін Губараў, з якім «Вожык» з вялікай радасцю пазнаёміўся сам, а цяпер знаёміць і вас!*



**— Раскажыце крыху пра сябе. Які шлях вы прайшлі, каб стаць тым, кім з'яўляецеся зараз? З чаго пачыналася вашая мастацкая дзейнасць?**

– Сярод сваіх аднагодкаў, якія абавязкова хацелі падацца ў касманаўты, я ў засваенні космасу замешаны толькі ў адным – намаляваў карціну «Савецкія касманаўты на невядомай планеце» і атрымаў пахвальную грамату на выставе дзіцячай творчасці. Тым самым гэтая тэма ў мастацтве была для мяне вычарпаная.

У дзіцячым садку я маляваў у альбомах дываны і перамалёўваў ілюстрацыі з кнігі пра вайну 1812 года: Барклай дэ Толі каля гарматнага лафета, Атаман Платаў на кані, паранены генерал Раеўскі... Потым гіпсавыя насы, вушы, нацюрморты з васковай садавіны ў студыі выяўленчага мастацтва. І ўсё гэта не пад прымусам, а толькі па ўласным жаданні.

**— Хто быў вашым самым галоўным настаўнікам у жыцці, чалавекам, які паверыў у ваш талент, дапамог яму раскрыцца?**

– У сям'і не было мастакоў, але бацькі не перашкаджалі майму захапленню. Напэўна, яны і не падазравалі, што яно пройдзе праз усё маё жыццё. Я і сам тады не ведаў, што гэты запал можа перарасці ў прафесію і што мая праца бу-



Яе вялікасць.



Другая прыкмета цнатлівасці.

## Біяграфічная даведка:

Валянцін Губараў нарадзіўся ў 1948 годзе ў Ніжнім Ноўгарадзе.

Пачаў мастацкую адукацыю ў Горкаўскім мастацкім вучылішчы, а працягнуў вучобу ў Маскве, на факультэце графікі Маскоўскага паліграфічнага інстытута.

З 1975 года жыве ў Мінску.

Член Беларускага саюза мастакоў.

З 1991 года ўдзельнічае ў рэспубліканскіх і міжнародных мастацкіх выставах. Персанальныя выставы Валянціна Губарава з поспехам прайшлі ў многіх краінах Еўропы.

З 1994 года мастак супрацоўнічае з галерэяй «Les Tournesols» (Францыя).

Творы Валянціна Губарава знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі «Zimmerly Art Museum» (ЗША), галерэях «Schaer und Wildbolz» (Швейцарыя), «Kunststuck» (Германія), «Les Tournesols» (Францыя), а таксама ў прыватных калекцыях Расіі, ЗША, Англіі, Японіі, Іспаніі, Ізраіля, Германіі, Францыі, Аўстрыі, Бельгіі, Польшчы і Турцыі.

дзе прыносіць задавальненне. Праўда, узгадваю момант, калі трэба было вырашаць пытанне «кім быць». Бацька ставіўся да маіх заняткаў у студыі выяўленчага мастацтва і спорту як да нечага часовага і бесперспектыўнага. Для развіцця, маўляў, не дрэнна, аднак не вечна ж гэтым займацца. Трэба асвойваць сапраўдную, рабочую спецыяльнасць. Але мне дазволілі зрабіць адну спробу — паступіць у мастацкае вучылішча. Я змог гэта і такім чынам акрэсліў прафесійную каляіну свайго далейшага шляху.



Зімовы вечар у Смаргоні.

**— Чаму вы абралі менавіта такі стыль для сваіх карцін?**

— Ніколі не трэба нічога выбіраць. Варта слухаць сэрца, давяраць свайму ўнутранаму компасу. Я спрабаваў многія стылі ў жывапісе. І гэта ўсё было для мяне радасным адкрыццём. З зачараваннем станавіўся імпрэсіяністам, кубістам, сюррэалістам, і толькі ў акадэміі ў маіх працах сталі з'яўляцца рысы, якія характэрны творчасці сённяшняга дня.

**— Раскажыце пра ваш уласны спосаб пошуку натхнення.**

— Натхненне шукаю вельмі проста. Трэба закахацца ў задуму будучай працы так, каб не цярпелася апынуцца ля мальберта, каб прыспешваць ноч, каб яна хутчэй прайшла. Працаваць безадказна, толькі для сябе, забыўшыся на славу, ганарары, галерэі, выставы, рыбалку і спіс прадуктаў, якія жонка прасіла купіць.

**— Якую ролю ў вашым жыцці адыгрывае гумар?**

— Уменне заўважаць смешнае, недарэчнае, пацешнае вельмі дапамагае мне і, спадзяюся, дабратворна афарбоўвае ўсю маю творчасць. Асабліва на фоне напышлівасці і фанабэрыстага пафасу. Мне заўсёды хочацца дапоўніць творы дасціпнымі жартамі і іроніяй.

**— Напэўна, у вас ёсць у запасе гумарыстычная гісторыя, звязаная з вашай творчасцю або карцінамі, нашым чытачам было б вельмі цікава яе пачуць.**

— У асноўным такія гісторыі адбываюцца на выставах у далёкім замежжы, дзе можна чакаць любых, самых непрадказальных пытанняў, чуць незвычайныя інтэрпрэтацыі маіх сюжэтаў.

Аднойчы ў Францыі пасля вернісажа да мяне падышоў багата апрануты калекцыянер і сказаў, што набыў маю карціну «Пераможцы апошняга ўраджаю». Гэта праца, я б сказаў, такога эратычна-фантасмагарычнага сэнсу. На ёй намалявана аколіца невялікага правінцыйнага гарадка, дзе два мужычкі цягнуць воз, на якім тры жанчыны сядзяць на гіганцкай моркве. Ён па-змоўніцку нахіліўся да майго вуха і шэптам спытаў:

— Скажыце, я правільна зразумеў сэнс карціны? Яна сімвалізуе парад на Краснай плошчы і гэта вязуць ракеты SS-20? — На нейкі час я здзівіўся. А пасля пацiснуў плячыма, што магло б азначаць: «усё можа быць, усё можа быць».



Пераможцы апошняга ўраджаю.

**— Як і дзе вы знаходзіце сюжэты для новых твораў?**

— Так як я мастак, які ў фарбах апісвае жыццё, то і ўсе сюжэты чэрпаю з яго. Галоўнае — гэта заўважыць. Банальнае можна зрабіць захапляльным і цікавым, у звыклае і сумнае ўдыхнуць свежыя павевы, а персанажаў зрабіць роднымі.

Я схіляюся перад героямі і чэмпіёнамі, але маё сэрца звернута да «дублёраў». Да тых, хто разбегся, але не дапрыгнуў, хто любіў, але не ўзаемна, хто стараўся, але не атрымалася. Гэта яны носяць вопратку з тканіны мясцовага камвольнага камбіната, ядуць сасіскі і п'юць піва айчыннай вытворчасці. Гэта яны сядзяць у чарзе ў паліклініках і гадамі чакаюць чаргі для дзіцяці ў садок. Яны святкуюць вяселлі, едуць на Радаўніцу на магілкі продкаў, хваляцца, што дачка паступіла на бюджэт, сціпла і ціха старэюць.

Усё гэта героі маіх карцін.

Пачатак. Працяг на с. 20.

Працяг. Пачатак на с. 18-19.



Натхненне.

**— Якую самую галоўную параду вы б далі мастакам-пачаткоўцам або студэнтам, якія шукаюць сябе ў жыцці?**

– Не ў кожнага чалавека жыццёвы шлях атрымліваецца прамым і імклівым, як аўтастрада. Асабліва, калі чалавек не вызначыўся. Аднак калі ты адчуў, што гэта тваё, то, набраўшыся цярпення і мужнасці, трэба ісці абранай дарогай. Мае працы таксама не бралі на выставы, часта крытыкавалі. Ад гэтага з'яўлялася жаданне тварыць як усе, эксплуатаваць «патрэбныя» тэмы і «выконваць сацыяльныя заказы». Але калі падыходзіць да творчасці з такога боку, то ў канчатковым выніку вялікага мастака з цябе не атрымаецца. Толькі сумленная і самаадданая праца дае прызнанне.

**— Напрыканцы: што б вы хацелі пажадаць нашым чытачам?**

– А дарагім чытачам «Вожыка» я хацеў бы пажадаць аптымізму, дабра і задавальнення ад таго, чым яны займаюцца. Менавіта такімі я і ўяўляю прыхільнікаў гэтага выдання. Цікавасць да жыцця, пачуццё гумару – вось што, на мой погляд, аб'ядноўвае ўсіх тых, хто любіць гэты часопіс.

*P.S. Да 9 верасня 2016 года на плошчы Якуба Коласа можна паглядзець карціны Валянціна Губарава: там размешчана выстава пад адкрытым небам «Мастак і горад».*

**Гутарку вяла Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Каб і хацеў – не прыдумаеш!

Кірзовыя боты – твар салдата!

Дарэчы, усе паперы вы складаеце з граматычнымі памылкамі. Думаеце, калі я сам не разбіраюся, дык не ведаю? Мне іншыя гавораць!

*(З выступленняў).*

У нашай краме вялікі выбар аксесуараў для валасоў ручнога вырабу.

Прадаецца натуральнае футра жонкі з капюшонам.

*(З аб'яў).*

Выдзеліць грошы для асвятлення вуліц, аб'ектаў і іншых мерапрыемстваў.

*(З пастановы).*

За работу вас чакае ўзнагароджанне. Калі не фінансавае, то ў выглядзе прызнання ў каханні.

*(З гараскопа).*

Каб не выходзіць з хаты з пустымі рукамі, ён прыхапіў шафу, ложак, стол і два крэслы.

*(З пратакола).*

З 90-годдзем, дарагая бабуля! Жадаем, каб збыліся ўсе мары тваіх любімых унукаў!

*(З віншавання).*

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Каханне з першага погляду

А вам знаёма каханне з першага погляду? Тады вы ведаеце, што ў такія моманты трэба дзейнічаць вельмі хутка, каб аб'ект кахання не знік гэтак жа раптоўна, як і з'явіўся.

Так адзін віцябчанін, калі ехаў у сталічным тралейбусе, убачыў жанчыну, якая вельмі яму спадабалася. І каб заваяваць яе сэрца, не прыдумаў нічога лепшага, чым падысці да яе і расхінуць плашч... пад якім не было вопраткі.

Жанчыне такая праява кахання з першага погляду падалася абразлівай, і яна паведаміла пра свайго голага прыхільніка вадзіцелю, які заблакіраваў дзверы тралейбуса і выклікаў міліцыю.

У хуткім часе кавалера, у якога, дарэчы, ужо было 12 судзімасцей, затрымалі за хуліганства. Зараз праводзіцца праверка, лічыцца, што жанчына была не першай, да каго ён адчуў раптоўныя сардэчныя пачуцці.

## Тайнік

Памятаеце знакамітую фразу Астапа Бэндара: «Можа, табе даць яшчэ ключы ад кватэры, дзе грошы ляжаць»? Смех смехам, але адзін індывідуальны прадпрымальнік з Маладзечна ўвасобіў гэты жарт у рэальнасць.




Мужчына займаўся грузаперавозкамі і меў некалькі аўтамабіляў. Паколькі ў яго ў падначаленых было некалькі вадзіцеляў, вырашыў не рабіць кожнаму асабісты камплект ключоў, а разам з дакументамі хаваць іх у сакрэтным месцы машын. Зразумела, што з цягам часу пра «тайнік» даведаліся і чужыя людзі. Так, падвыпіўшы, родзіч аднаго з работнікаў украў мікрааўтобус «Ивеко» і паехаў катацца. Потым, праўда, апамятаўся і пакінуў машыну ў чыстым полі. Праз невялікі прамежак часу мужчыну знайшлі і затрымалі міліцыянеры.

Хоць небарака і апраўдваўся, — маўляў, што з-за гарэлкі здурнеў і ўвогуле прадпрымальнік сам вінаваты, бо пакідаў ключы ў машыне, — але гэта не дапамагло, па факце ўгону мікрааўтабуса ўсё роўна была заведзена крымінальная справа. Злодзей рызыкуе апынуцца ў турме.

## Кампанія на некалькі гадоў

Хто б не хацеў адзначыць свой дзень нараджэння з размахам! Каб і багаты стол, і прыемныя віншаванні гасцей, і нават урачысты салют былі.

Вось і мужчына з Пухавіч пра гэта марыў. Але, на жаль, на сваё саракагоддзе ў яго не было нічога з пералічанага. Таму засмучаны імяніннік вырашыў арганізаваць свята самастойна. Выйшаў зранку на вуліцу і пачаў «салютаваць» з абрэза.

Пачуўшы стрэлы, суседка выклікала міліцыю. На месца прыехалі следча-аператыўная група, дзяжурныя атрады і кіраўніцтва Пухавіцкага РАУС. У мэтах бяспекі акружылі дом, бо хто ведае: можа, адзінокаму імянінніку прыйшло б у галаву пачаць калечыць людзей, якія не павіншавалі яго са святам. Калі праваахоўныя супрацоўнікі ўпэўніліся, што дома акрамя мужчыны нікога няма, ажыццявілі захват і абясшкоджванне «салюцёра».

Вядзецца следства. Мяркуем, наступныя некалькі гадоў у яго абавязкова будзе кампанія для святкавання. Шкада толькі, што за кратамі...




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.






## Я і ты

*Я на цябе глядзеў,*
*Ты на мяне глядзела.*
*Нечага я хацеў,*
*Нечага ты хацела.*

Янусь МАЛЕЦ



Я цябе абдымаў,
Ты мяне абдымала.
Нечага я чакаў,
Нечага ты чакала.

Я цябе цалаваў,
Ты мяне цалавала.
Любай цябе назваў,
Ты мяне не назвала.

Я маўкліва застыў,
Толькі ты не маўчала:
– Хіба зусім забыў?
Я – не Люба, я – Ала!

**Анатоль ЗЭКАЎ**



## Пчаліны маналог

*Трымціш ты, нібыта пчала,*
*Між кветак гэтых, лісця...*
*З чаромхаў белага святла*
*Няма, здаецца, выйсця.*

Віктар БУБНАЎ

* * *

*Каля кветкі тваёй сёння зумкалі пчолы...*

Мікола ШАБОВІЧ



«Не трымці, як пчала, не трымці», –
Ты казаў паміж кветак і лісця.
Толькі сёння масты не масці,
Бо такое было ўжо калісьці.

За нектарам ляцела ў бязмеж,
І чаромхі бялелі наўкола...
Ты спазніўся, Віцюня. Мяне ж
Сам Шабовіч уславіў Мікола!

**Аляксандр БЫКАЎ**


Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.




## Папрасіла я Сярожу…

Папрасіла я Сярожу
Пыл у хаце патрывожыць.
Доўга не шукаў адказу:
– Няма часу! Іншым разам.

Угаворвала Сярожку
Раніцай заслаць свой ложак.
Зноў адрэзаў без падказак:
– Няма часу! Іншым разам.

Даручыла я Сярожку
Пакарміць смятанай кошку.
Ды пачула тую ж фразу:
– Няма часу! Іншым разам.

Потым, пачакаўшы крышку,
Клічу снедаць: «Бяры лыжку!»
Іншы хлопчыка адказ:
– Іду, вольны я якраз.
Справу гэтую люблю,
Хуценька яе зраблю.

Вось каб мне апошні сказ
Чуць заўсёды у адказ!

**Святлана АГЕЯВЕЦ,**
*Пружанскі раён,*
*г. п. Ружаны.*






Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ.

## Не зразумела

Званок у дзверы. Позні час.
Пытае жонка: «Хто там?» Ціха.
«Іван, мо ты?» Ды у адказ
Маўчок, нібы на тое ліха.

«Чаго сябе ты не назваў?» –
На мужа жонка наляцела.
Той у адказ: «Ды я ж ківаў!
Ты зразумець не захацела...»

Счакаўшы пяць мінут, яна
Пайшла ў пакой. Назаўтра рана
Устала з ложка – ля акна
Убачыла свайго Івана.

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аркадзя ЖУРАЎЛЁВА.

## Бальнічныя законы ад дзядзькі Антона



Не рыхтуй пятлю на шыю,
Не бяры да сэрца:
Дзе разрэжуць, там зашыюць –
Болей не парвецца!

* * *

Будзь аптымістам, не войкай, не охкай –
Адразу ў хваробе адчуеш палёгку.



* * *



Калі ў бальніцы мусіш ты лячыцца,
Забудзься пра кароткія спадніцы.



* * *

Уколаў, дружа, не пужайся,
Адразу лепей аддавайся!

* * *



Дактароў любі не словам,
Не вялікім «дзякуем»,
А гасцінцам адмысловым,
Дзе бутэлька звякае.

**Ігар ПРАКАПОВІЧ,**
*г. Паставы.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 7 (1534), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 07.07.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,62. Тыраж 1030 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.









Малюнкі Алега ПАПОВА.